## КУРЫЛКА

*— Радавы Пятроў, дзе ваш кіцель?*
*— Я паслаў сваёй маці.*
*— Як? Навошта?!*
*— У мяне адарваліся гузікі, а прышыць няма каму.*

* * *

*Сяржант адправіўся на рыбалку. Размясціўся на беразе ракі, адкрыў слоік з чарвякамі і крычыць:*
*— Патрэбен адзін добраахвотнік? Два крокі наперад!*

* * *

*Палкоўнік спыніў радавога, які не аддаў чэсць, і кажа:*
*— Таварыш радавы! Вы што, не бачыце, якая на мне форма?*
*Салдат паглядзеў на палкоўніка з галавы да ног і адказаў:*
*— Вам пашанцавала, таварыш палкоўнік! А зараз паглядзіце, што выдалі мне.*

* * *

*— Алё, гэта "хуткая дапамога"? Ці можаце вы прыслаць санітараў?*
*— А што здарылася?*
*— Вось скажыце: чалавек, які ў шэсць гадзін раніцы пачынае трубіць у трубу і будзіць усіх, ён нармальны?*
*— Безумоўна, ненармальны! Ваш адрас, калі ласка?*
*— Ваенная часць № 12/6. Казарма.*

* * *

*Навабранец у першы раз папаў на абед у вайсковую сталовую. Паглядзеў на тое, што было на талерцы, і кажа:*
*— Ці ёсць у мяне права выбара?*
*— Ёсць, — адказаў повар. – Хочаш – еш, не хочаш – не еш.*

* * *

*Праз 30 гадоў пасля заканчэння школы Іваноў прыйшоў на сустрэчу з аднакласнікамі. Усе расказваюць пра сям'ю, працу.*
*— Іваноў, а кім ты працуеш?*
*— Я генерал.*
*— Не можа быць! Ты ў школе нічога не ведаў!*
*— Я і зараз нічога не ведаю. Але каб да раніцы ўсё было зроблена!*



**Музыканты вядомага гурта N.R.M. змянілі на трыбуне, што на плошчы Бангалор у Мінску, прафлідэраў-выступоўцаў напрыканцы прафсаюзнай акцыі 14 лютага. Паслухаць канцэрт засталася ў асноўным моладзь. Дарэчы, "Незалежная Рэспубліка Мроя" запрашае сваіх прыхільнікаў завітаць па магчымасці ў Інтэрнэт на адрас *www.nrm.home.by.* Віртуальную "Рэспубліку" сёння таксама, як і ўсіх, хвалююць перадвыбарныя пытанні...**



## Благотворительная акция

24 февраля 2001 года в помещении костела Святых Сымона и Алены с 11 до 14 часов состоится благотворительный прием и консультирование малообеспеченных семей.

Прием осуществляется высококвалифицированными врачами: педиатром, наркологом, психологом, психотерапевтом, а также прием осуществляют ксендз Владислав Завальнюк и адвокат Вера Стремковская.

Организаторы акции: ОО «Центр по правам человека» совместно с ОО «Христианское общество милосердия» и Комитетом по здравоохранению Мингорисполкома.

***Контактный телефон 268-40-00.***

## УВАГА, КОНКУРС!

Мінская гарадская арганізацыя грамадскага аб'яднання «Таварыства Беларускай мовы імя Ф. Скарыны» прапануе правесці маладзёжна-забаўляльную праграму-віктарыну «Наша Беларусь» для мінскіх школьнікаў 7 – 11 класаў.

**ЗМЕСТ:**
Прадмова
Беларуская зямля
(8 пытанняў)
*Музычны перапынак*
Гісторыя Беларусі (старажытная, новая)
(19 пытанняў)
*Музычны перапынак*
Беларуская культура
(мастацтва, музыка, спорт)
(14 пытанняў)
Заключэнне
*Вынікі і ўзнагароджанне*

Для правядзення мерапрыемства адміністрацыя школы прызначае памяшканне (актавая зала), час правядзення і класы.

Магчымае правядзенне – 45 і 90 хвілін.

Пры жаданні магчыма таксама арганізацыя 2,5-3-гадзінных сустрэч з прыцягненнем знакамітых асоб (пісьменнікаў, мастакоў, рэжысёраў, гісторыкаў, рэдактараў, бардаў і т.п.)

Шматлікія прызы - відэа- і аудыякасеты, кнігі, часопісы, падпіскі, CD і дыскеты, іншыя падарункі і сувеніры.

Падача заяў і пытанні – да загадчыка арганізацыйнай камісіі Мінскай рады ТБМ сп. Алеся Стральцова па **тэл. 223-07-43** увечары.
Можна таксама пакінуць кантактны тэлефон сакратару Мінскай рады
**па тэлефоне 213-03-52 з 13.00 да 17.00.**
ТВМ (tbm@tbm.lingvo.minsk.by)

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ з № 4 (159)**

**Па гарызанталі:** 1. Кейстут. 6. Вайна. 7. Арлоў. 8. Каганец. 9. Вацлаў. 11. Карскі. 14. Ельніца. 15. "Беларус". 17. Купала. 20. Уласаў. 22. Агнешка. 23. Город. 24. Друцк. 25. Казімір.

**Па вертыкалі:** 1. Кракаў. 2. Сувалкі. 3. Трацяк. 4. Палац. 5. Колас. 9. Віцебск. 10. Лазніка. 12. Русалка. 13. Ізяслаў. 16. Адведкі. 18. Палон. 19. Азадак. 20. Уладар. 21. Слуцк.

# Беларускі каляндар

***840 гадоў таму мастак-ювелір Лазар Богша стварыў крыж, які замовіла ігумення полацкага Спасаўскага манастыра Ефрасіння. Ужо шмат стагоддзяў яна шануецца як святая Ефрасіння Полацкая, нябесная заступніца беларускай зямлі, а шэдэўру майстра Богшы наканавана было стаць нашай агульнанацыянальнай рэліквіяй – сімвалам хрысціянскай святасці і старажытнай дзяржаўнасці Беларусі.***

Шасцівугольная форма крыжа, які зроблены з іерусалімскага кіпарысу і мае вышыню каля 52 сантыметраў, сімвалізуе створаны Богам за шэсць дзён Сусвет. Зверху і знізу святыню закрывалі залатыя пласцінкі, аздобленыя каштоўнымі камянямі і эмалевымі абразкамі з выявамі святых. У пяці "гнёздах" знаходзіліся прысланыя ў Полацк з Царграда (Канстанцінопаля) і Іерусаліма хрысціянскія рэліквіі, сярод якіх – кавалачкі Крыжа Гасподняга з кроплямі Ісусавай крыві і драбок каменю ад дамавіны Багародзіцы. Паводле задумы ігуменні, святыня павінна была "жыватварыць" душы палачанаў і ўсіх жыхароў роднай зямлі.

Тым жа, хто меўся ўкрасці або прадаць святыню, былі адрасаваны словы грознага праклёну, выбітыя на крыжы поруч з надпісам, дзе паведамлялася дата і гісторыя яго стварэння, імя майстра і заказчыцы. У перакладзе на сучасную мову яны гучаць так: *"... І хай не выносяць крыж з манастыра ніколі, і не прадаюць, не аддаюць. Калі ж не паслухаецца хто і вынесе з манастыра, хай не дапамажа яму святы крыж ні ў жыцці гэтым, ні ў будучым, хай пракляты будзе ён святой жыватворнаю Тройцаю ды святымі айцамі... і хай напаткае яго доля Юды, які прадаў Хрыста".*

Страх перад Божаю карай, якую абяцаў змешчаны на крыжы праклён, быў не ўсемагутны. Неўзабаве пасля смерці Ефрасінні Полацкай святыню вывезлі ў Смаленск, адкуль яна трапіла ў Маскву. У 1563 г., замольваючы ўчыненыя ў Полацку крывавыя злачынствы, Іван IV Жахлівы вярнуў крыж у Спасаўскі манастыр.

Пра драматычны лёс нашай нацыянальнай святыні напісаны добры тузін цікавых кніг і артыкулаў. З іх чытач можа даведацца пра тое, напрыклад, як за крыж святой Ефрасінні судзіліся езуіты, а прайграўшы – спрабавалі яго падмяніць; пра тое, як у 1812 г., калі Полацк на некалькі месяцаў трапіў у рукі французаў, манахі-базыляне ўратавалі рэліквію, замураваўшы яе ў нішы Сафійскага сабора; або пра тое, як святыня трапіла ў Пецярбург, і як напужаны старажытным праклёнам імператар Мікалай І загадаў неадкладна везці яе назад, у Полацк.

Найцяжэйшыя пакуты прынесла крыжу мінулае, XX стагоддзе. У 1921-м яго рэквізавалі бальшавікі. Яны выламалі з беларускай святыні тры эмалевыя выявы святых, трынаццаць – папсавалі, а каштоўныя камяні замянілі фарбаваным шклом. У 1929 г. крыж Ефрасінні Полацкай трапіў у Магілёў, дзе спачатку знаходзіўся ў музейнай экспазіцыі (тут святыня не затрымалася, бо многія наведвальнікі пачыналі перад ёю маліцца), а потым ў пакоі-сейфе ў будынку абкама партыі, адкуль знік у 1941 г. У складзеным пасля вызвалення горада акце кошт крыжа ацэньваўся ў 6 мільёнаў рублёў.

Версія, паводле якой крыж вывезлі нямецкія захопнікі, гучыць не пераканаўча: Магілёў знаходзіцца далёка ад дзяржаўнай мяжы, і час дазваляў правесці эвакуацыю скарбаў. Хутчэй за ўсё рэліквія трапіла на ўсход, у Расію. Гэтай версіі прытрымліваюцца, у прыватнасці, журналіст Аляксандр Лукашук, які шукаў крыж за акіянам, нават у ФБР, аўтарытэтны гісторык з Полацка Уладзімір Арлоў, супрацоўнік упраўлення КДБ па Магілёўскай вобласці Сяргей Багдановіч. Апошні шмат зрабіў у расследаванні загадкавай гісторыі знікнення рэліквіі і лічыць, што крыж Ефрасінні Полацкай разам з іншымі беларускімі каштоўнасцямі сёння можа знаходзіцца ў Эрмітажы або ў музейных сховішчах Уфы і Самары, куды ў час вайны трапілі архівы Магілёўскага абкама партыі. З думкай калегі з большага пагадзіўся, даючы інтэрв'ю газеце "Звязда" (19 чэрвеня 1997 г.), кіраўнік цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Беларусі Генадзь Сенюкоў: *"... можна меркаваць, што ўсе рэчы з Магілёва аселі дзе-небудзь у правінцыйным расійскім музеі ці архіве".*

Такім чынам, спецыялісты сведчаць, што крыж Ефрасінні Полацкай – наша бясцэнная нацыянальная святыня, якая так патрэбна нам сёння, бо, без сумніву, паспрыяла б кансалідацыі грамадства і азарыла б яркім жыватворным святлом тысячагадовы Адвечны Беларускі Шлях, з якога мы збочылі ў цемру, – апошнія шэсцьдзесят гадоў пыліцца недзе ў расійскіх сховішчах. Усходні сусед трымае ў цянётах часціну нашай беларускай Душы. Мо таму гэтак дрэнна зараз там, у Расіі, што над ёю здейсніўся жахлівы праклён нябеснай заступніцы беларусаў, уладальніцы крыжа Ефрасінні Полацкай?

**Падрыхтаваў Павел АБРАМОВІЧ.**

## ПРОГРАММА ТВ — ВОСКРЕСЕНЬЕ, 4 МАРТА

**БТ**
7.00 Док.фильм «А я живу все там же... О любви».
7.25 Детективный сериал «Жюли Леско».
9.00, 15.00 Новости.
9.10 «Новые приключения гномов». Мультсериал(Испания). 3-я серия.
9.35 Юмористический сериал «Кувалда»(США).
10.05 «Все нормально, мама!».
10.30 «Одиссея команды Кухто». Телеигра.
11.05 «Большой завтрак».
11.30 Арсенал. Программа об армии.
12.00 «Бесконечная история». Худ. фильм.
13.30 Док.сериал «Великие женщины века». Элизабет Тейлор(США-Англия).
13.50 Сериал по выходным. «На гребне волны».
14.35 25-й кадр.
15.15 «Встреча в Троицком» с А. Домарацким.
15.40 Криминальное досье.
16.10 Х/ф. «Криминальный квартет».
18.00 Повторные выборы в Палату представителей Национальнгоо собрания Республики Беларусь.
18.50 Планета «АРТ».
19.20 Теленавигатор.
19.40 Телебарометр. Прогноз погоды.
20.00 Резонанс.
20.50 Спорт-курьер.
21.05 Худ.фильм «Задача с тремя неизвестными». 1-я и 2-я серии.
23.18 Телевизионный Дом кино.

**ОРТ**
06.45 Слово пастыря.
07.00 Новости.
07.10 Служу России!
07.40 «Аладдин».
08.05 Утренняя звезда.
09.00 Новости.
09.10 «Непутевые заметки».
09.30 Пока все дома.
10.10 Фильм «Вторая истина».
11.55 Утренняя почта.
12.25 Клуб путешественников.
13.05 «Эх, Семеновна!».
13.45 Сокровища Кремля.
14.00 Новости.
14.10 Сериал «Китайский городовой».
15.05 «Чип и Дейл».
15.35 Умницы и умники.
16.00 Живая природа. «Хищники: Охотники поневоле».
17.00 Новости.
17.20 «Два бойца». Спецрепортаж.
17.40 Комедия «Стряпуха».
19.05 Приключенческий фильм «Последний герой боевика».
21.30 Времена.
22.45 «На футболе».
23.25 Фильм «Стыдливые люди».

**РТР**
04.50 Чемпионат мира по автогонкам в классе «Формула-1». Сезон 2001 года. Гран-при Австралии.
07.00 Музыкальная сказка «Черный принц Аджуба». 2-я серия.
08.00 Русское лото.
08.40 «ТВ Бинго шоу».
09.35 Доброе утро, страна
10.05 «Аншлаг» и Ко.
11.00 «Городок. Из раннего».
11.30 Федерация.
12.10 Парламентский час.
13.00 Вести.
13.20 Диалоги о животных.
14.20 Вокруг света.
15.25 «Два рояля».
16.20 Сам себе режиссер.
17.00 «Зеркало».
18.20 Приключенческий фильм «Бухта французского пирата».
20.15 Комедия «За прекрасных дам!»
21.45 Мелодрама «Польская красавица».
23.45 Церемония вручения «Национальной Интел Интернет премии».
01.20 Прогноз погоды.

**НТВ**
07.00 Сегодня.
07.15 Сериал «Закон джунглей».
07.45 «Российская империя». Фильм Л.Парфенова.
09.00 Сегодня.
09.15 Сказка «Снегурочка».
11.00 Сегодня.
11.25 «Депрессия».
11.45 Приключенческая комедия «Вива, Мария!».
14.00 «Третий тайм».
15.00 Сегодня.
15.25 Без рецепта.
15.55 Путешествия натуралиста.
16.25 Большие родители.
16.55 Сериал «Новые приключения Никиты».
18.00 Итоги.
19.45 Куклы.
20.00 Сериал «Улицы разбитых фонарей». «Охота на крыс».
21.15 Детектив «Окно в спальне».
23.25 «Футбольный клуб».
00.05 Сериал «За гранью возможного».

**КУЛЬТУРА**
09.05 «ДТА».
09.30 «Шерлок Холмс и знак четырех». Мультфильм.
10.30 Экспедиция «Чиж».
11.00 Фильмы о животных.
11.55 Бабушкины рецепты.
12.05 Графоман.
12.35 Ток-шоу «Наобум».
13.00 Век русского музея.
13.30 Новости культуры.
13.45 Театральная летопись XX века.
14.10 «Блудный сын». Худ.фильм.
15.35 Тем временем.
16.05 «Мартин Скорсезе снимает».
17.00 Смехоностальгия.
17.25 В мире танца. Памяти Элвина Элли.
18.20 «Попрыгунья». Худ.фильм.
19.50 Вечерняя сказка.
20.00 «Ох, уж эти детки». Мультсериал.
20.20 XX век. Избранное. «Полет в небеса. Даниил Хармс».
21.00 Новости культуры.
21.20 Личные воспоминания о большой жизни.
21.25 «Кто там...».
21.50 «История одного преступления». Мультфильм для взрослых.
22.15 «Боже, испепели Танбридж Уэллс!» Худ.фильм. 2-я серия.

**ТВ6**
06.10 Боевик «Отряд спасения».
07.40 Дорожный патруль.
07.55 «Star Старт».
08.30 «Шоу Бенни Хилла».
09.55 «Сеть».
10.30 «Я знаю все!».
11.30 «Все в сад!».
11.55 Телемагазин в Минске.
12.05 Канон. Как жить по православному. «Великий Пост».
12.30 Дорожный патруль.
12.55 Сериал «Самые громкие преступления XX века».
13.55 «Амба-ТВ».
14.25 Телемагазин в Минске.
14.35 «Вы - очевидец».
15.35 «Я - супермодель». Карен Малдер.
16.50 Катастрофы недели.
17.45 Дорожный патруль.
18.00 Ваша музыка: «Премьер - министр».
19.00 Фильм-катастрофа «Убийственный рейс».
20.40 Боевик «Удар Пантеры».
22.25 «Х-фактор».
23.00 «Вечеринка из «Метелицы».



РАБОЧЫ
ШТОТЫДНЁВАЯ МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Заснавальнік і галоўны рэдактар Віктар ІВАШКЕВІЧ

*Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1255 ад 27.12.99г. Наклад 20 000. Нумар падпісаны ў друк 20.02.2001 г. у 19.00. Заказ 177*
*Надрукавана ў друкарні ПП "Мэджык" (г. Мінск, вул.Кнорына, 50а)*

Адрас рэдакцыі:
220030, г.Мінск, пл.Свабоды,23, «РАБОЧЫ»
E-mail: kapp@irex.minsk.by
Тэл. (017)227-04-54
Тэл./факс (017)227-13-16